ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.30 (3150) ● ● ЧАЦВЕР, 13 ЖНІЎНЯ, 2009

ШТОТЫДНЁВІК “ГОЛАС РАДЗІМЫ” МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: **WWW.GOLAS.BY**



**Песня прынесла Гран-пры**
Беларуская народная песня “Вярба” ў выкананні 13-гадовай беларускі Дар’і Надзінай прынесла ёй перамогу на Міжнародным фестывалі дзяцей і моладзі **Стар. 2**



**У Святычах, дзе сад малады** **Стар. 3**



**Нарач: цёплы бераг дзяцінства**
Цэнтр дзіцячага адпачынку “Зубраня”святкуе саракагоддзе **Стар. 4**

# Спас вітаюць мёдам

## Фестывальны рух адраджае традыцыі пчалярства



**Пад народныя спевы свята адкрывае яго арганізатар Юрый Радзькоў**



АЛЯКСАНДР РУЖАЧКА
**Частуйцеся на здароўе беларускім мядочкам!**


**Фестываль заўзята гудзеў, нібыта вялікі вулей**

**Дзмітрый Альфер**

Некалькі стагоддзяў таму ў Беларусі бортніцтва было адным з самых распаўсюджаных відаў дзейнасці, амаль роўнае па значнасці з земляробствам. Таму і сёння каштоўны дар пчолаў мы ўспрымаем як нешта большае, чым проста салодкі і карысны для арганізму прадукт. Факт: майстэрства пчаляроў не было страчана, яно жыве і сёння. Аб гэтым сведчыць і фестываль “Свет мёду і здароўя”. Праводзіцца ён энтузіястамі, якія распаўсюджваюць у краіне традыцыі збору мёду.

Пачалося ўсё ў 2006-м, калі беларускія пчаляры пры падтрымцы мінскага Свята-Елісавецінскага манастыра вырашылі ў першай палове жніўня, на праваслаўны Спас, арганізаваць у сталіцы Беларусі вялікі мядовы кірмаш, як было спрадвеку. Дарэчы, у мінулым людзі прыносілі для асвячэння ў храмы здабыткі з вулляў. Прычым самы смачны мёд не прадавалі, а пакідалі для дабрачыннасці.

Так адбылося і тры гады таму. Свята ўпершыню было праведзена ў мінскім Палацы мастацтваў і з цягам часу ператварылася ў сапраўдны фестываль пад назвай “Свет мёду і здароўя”. Ён стаў штуршком для ўсіх гаспадароў вулляў. Раней, напрыклад, у краіне пчальнікі мелі чалавек дзвесце-трыста. Сёння аматараў пчалярства стала ў разы больш.

У тым — немалая заслуга фестывалю. Першапачаткова ён вырашыў застарэлую праблему: людзі атрымалі магчымасць гандляваць уласным мёдам на выставах, што праводзяцца ў межах свята. Не так даўно арганізатары падлічылі, што з самага першага кірмашу і па сённяшні дзень было рэалізавана больш за тысячу тон салодкай прадукцыі. А ў час дэгустацый разышліся больш за дзвесце бочачак мёду. Між іншым, каб “адолець” толькі адну, трэба, каб дарамі пчолак пачаставаліся не менш чым дзесяць тысяч чалавек.

Між тым, продаж мёду самых разнастайных сартоў — толькі адна з мэтаў, дзеля якой ладзяцца гэтыя святы. “У назве фестывалю нездарма прысутнічае слова “здароўе”. Дзякуючы добразычлівай духоўнай атмасферы, якая адчуваецца на нашых святах, мы намагаемся папулярызаваць менавіта здаровы лад жыцця, — тлумачыць арганізатар фестывалю Юрый Радзькоў. — Не проста дапамагаем прадаць прадукцыю пчалярства. Давайце ўзгадаем, што раней існавала традыцыя ўшанавання гасцей духмяным мёдам. Безумоўна, у мінулым беларусы былі вядомыя як яго гандляры. Такім чынам, мёд — адзін з вобразаў нашай краіны, які трэба падмацоўваць сучасным формамі”.

І гэты вобраз становіцца ўсё больш вядомым. Ён, напрыклад, ужо атрымаў шырокае прызнанне ў Башкартастане. У госці ў гэты расійскі рэгіён ужо запрошаны беларускі фестываль “Свет мёду і здароўя”. Дарэчы, заваяваць павагу пчаляроў з тых мясцінаў няпроста. Яны прызнаныя майстры сваёй справы, знакамітыя на ўвесь свет адметным ліпавым мёдам, ці, як яго называюць па-іншаму, “цар-мёдам”.

Адчуць смак самых розных мядовых гатункаў можна было ў гэтыя жнівеньскія дні ў мінскім Палацы мастацтваў. Вочы разбягаліся, а рукі так і цягнуліся пакаштаваць той ці іншы мёд яшчэ і яшчэ раз: горны і бруснічны — з Сібіры, грэчкавы — з Украіны, пахучае лясное разнатраўе — з Беларусі, мёд з Польшчы, з Паўднёвай Асеціі. “Я мару, каб такія фестывалі ладзіліся ў кожным абласным і раённым цэнтры, каб да іх далучалася як мага больш моладзі. Калі гэта атрымаецца, буду лічыць, што мы ідэю здзейснілі як належыць”, — выказваецца Юрый Радзькоў.

Здаецца, справа ладзіцца ў арганізатараў фестывалю добра. Сёлета яны вырашылі правесці святы не толькі ў Мінску, але адначасова і ў Гомелі, Жлобіне, Полацку, Добрушы. Каб мясцовыя пчаляры таксама падзяліліся з тамтэйшым людам сваімі здабыткамі ў такой жа святочнай атмасферы, як і ў Мінску.

А на фестывалі “Свет мёду і здароўя” ў сталіцы можна было ўбачыць выступленні вядомых артыстаў, музыкантаў, спартсменаў. І, канешне ж, атрымаць асалоду ад смачнага мядочку.

**ВЕСТКІ**

## Гісторыя, падзеі, людзі

**Андрэй Пятроў**

**У Нацыянальнай бібліятэцы адкрыты доступ да банку дадзеных “Беларусь у асобах і падзеях”**

Як паведамілі спецыялісты бібліятэкі, універсальны банк дадзеных уключае звесткі пра людзей, жыццё і дзейнасць якіх былі звязаны з Беларуссю. У ім таксама можна знайсці інфармацыю пра найбольш важныя падзеі, перыядычныя выданні, прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, населеныя пункты, прыродаахоўныя тэрыторыі і іншыя аб’екты, якія ўвайшлі ў гісторыю краіны. Прычым багатая тэкставая інфармацыя дапоўнена ілюстрацыйным матэрыялам і гіперспасылкамі на Інтэрнэт-рэсурсы.

Доступ да банку дадзеных “Беларусь у асобах і падзеях” пакуль што магчымы толькі з будынка Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

## Педагогі дамовіліся

**Таццяна Вішнеўская**

**Гродзенская вобласць і Падляшскае ваяводства наладжваюць супрацоўніцтва ў сферы адукацыі**

Кантакты паміж беларускімі і польскімі навучальнымі ўстановамі будуць умацоўвацца па шматлікіх кірунках. У прыватнасці, бакі гатовы забяспечваць адзін аднаго метадычнай літаратурай. У школах Падляшскага ваяводства вывучаецца беларуская мова, а гродзенскія педагогі выкладаюць польскую мова і літаратуру. Развіццё атрымаюць і культурныя абмены. Настаўнікі і школьнікі будуць прымаць удзел у сумесных алімпіядах, конкурсах і спартыўных мерапрыемствах.

Дарэчы, у хуткім часе будуць складзены прамыя дамовы аб супрацоўніцтве і паміж асобнымі польскімі і гродзенскімі ўстановамі адукацыі.

# Песня прынесла Гран-пры

## Беларуская народная песня "Вярба" ў выкананні 13-гадовай Дар'і Надзінай прынесла ёй перамогу на Міжнародным фестывалі дзяцей і моладзі, што праходзіў на памежжы Польшчы і Чэхіі

**Жанна Катлярова**

"За гэтую песню Дар'і дзякавалі ўсе, яна вельмі спадабалася не толькі журы, але і канкурсантам, гледачам", — расказала маці юнай спявачкі Святлана Надзіна. Другой песняй, якая таксама прынесла Дашы пераможныя балы, стала "Давайце сябраваць!" беларускага кампазітара Леаніда Вайтовіча. Гэтая песня, між іншым, стала неафіцыйным гімнам сёлетняга фестывалю дзяцей і моладзі, дэвіз якога "Лета. Творчасць. Усмешкі!". Свой заклік "Давайце сябраваць!" Даша выконвала і на галаканцэрце на "біс" па просьбе арганізатараў.

Конкурс праходзіў на памежжы Польшчы і Чэхіі на пляцоўках розных гарадоў. Усяго больш за сто пяцьдзесят маладых талентаў ва ўзросце ад 11 да 16 гадоў з Беларусі, Украіны, Польшчы паказвалі ўменне спяваць, танчыць і маляваць. Конкурс праводзіўся ў трох намінацыях. Міжнароднае журы выбірала лепшых шляхам закрытага галасавання.

Гран-пры — кубак з надпісам "Міжнародны фестываль дзяцей і моладзі "Лета. Творчасць. Усмешкі!" — і дыплом пераможцы папоўнілі калекцыю ўзнагарод Дар'і. Яна была лаўрэатам 3-га Міжнароднага конкурсу папулярнай песні "Новая музыка 2008" (Балгарыя) і 3-га Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Акно ў Еўропу" (Расія), Міжнароднага дзіцячага конкурсу "Залатая пчолка" (Беларусь). Летась у лістападзе Даша Надзіна разам з Алінай Молаш і Карынай Жуковіч выступала на сцэне шостага Міжнароднага дзіцячага конкурсу песні "Еўрабачанне-2008" на Кіпры.



У калекцыі ўзнагарод Дар'і Надзінай — папаўненне

# Планы на мільярд

**Эдуард Півавар**

**Нягледзячы на зніжэнне тавараабароту паміж Беларуссю і Ніжагародскай вобласцю Расіі, колькасць сумесных праектаў павялічылася**

На сустрэчы з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі ў Расіі Васілём Даўгалёвым ніжагародскі губернатар Валерый Шанцаў заявіў, што ўзрастае колькасць удзельнікаў камерцыйных аперацый паміж рэгіёнам і Беларуссю. Пры гэтым з'явіцца больш сумесных праектаў, арыентаваных на Расію ў цэлым. Губернатар адзначыў, што з прычыны складанай эканамічнай сітуацыі тавараабарот у 2009 годзе паміж Ніжагародскай вобласцю і Беларуссю панізіўся, аднак у перспектыве планецца забяспечыць яго рост. "Мэта, якую мы ставілі, — дасягнуць узроўню тавараабароту паміж Ніжагародскай вобласцю і Беларуссю ў мільярд амерыканскіх долараў — можа быць здзейснена, калі мы пачнём больш канкрэтна працаваць", – падкрэсліў ён. Па выніках 2008 года двухбаковы тавараабарот склаў больш за 650 мільёнаў долараў.

Як паведаміў беларускі пасол у Расіі, цяпер ніжагародскія і беларускія бізнесмены прапрацоўваюць сумесныя прапановы па біятэхналогіях, суднах на паветранай падушцы. Беларускі бок гатовы таксама падзяліцца тэхналогіяй перапрацоўкі малака, калі ў гэтым будзе зацікаўлена Ніжагародская вобласць.

# Надзвычайная каштоўнасць

**Уладзімір Матвееў**

**Архівы Радзівілаў і Нясвіжская калекцыя кніг уключаны ў рэгістр ЮНЭСКА "Памяць свету"**

Трыццаць пяць новых аб'ектаў дакументальнай спадчыны папоўнілі рэгістр ЮНЭСКА "Памяць свету". З 1997 года іх агульная колькасць узрасла да 191. Генеральны дырэктар ЮНЭСКА Каіціра Мацуура паведаміў аб занясенні гэтых аб'ектаў у рэгістр "Памяць свету". Рашэнне было прынята ім на падставе рэкамендацый экспертаў, якія сабраліся на пасяджэнні Міжнароднага кансультацыйнага камітэта (МКК) праграмы ЮНЭСКА "Памяць свету" ў Брыджтаўне (Барбадос).

Такім чынам, архівы Радзівілаў і Нясвіжская калекцыя кніг увайшлі ў шэраг трыццаці пяці "навічкоў" рэгістра. Цяпер яны знаходзяцца не толькі ў Беларусі, але і ў Фінляндыі, Літве, Польшчы, Расіі, Украіне. Гэтая калекцыя стваралася з XV па XX стагоддзе родам Радзівілаў — адным з самых знакамітых у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Шматлікія яго прадстаўнікі займалі высокія дзяржаўныя пасады і адыгрывалі значную ролю ў гісторыі Прусіі, Расійскай імперыі і Польшчы. Архівы Радзівілаў, па сутнасці, з'яўляліся афіцыйнымі архівамі ВКЛ. Там зберагаліся як дзяржаўныя дакументы і дамовы, так і прыватнае ліставанне Радзівілаў.

У рэгістр "Памяць свету" заносяцца аб'екты дакументальнай спадчыны, адабраныя Міжнародным кансультацыйным камітэтам як адпавядаючыя крытэрыям адзнакі іх сусветнага значэння і зацверджаныя затым рашэннем генеральнага дырэктара ЮНЭСКА.

Разам з архівамі Радзівілаў і Нясвіжскай калекцыяй кніг у рэгістр "Памяць свету" ўвайшлі брытанская Вялікая хартыя вольнасцяў, якую абнародавалі ў 1215 годзе, гераічная паэма сярэднявечнай Еўропы "Песня пра Нібелунгаў", архівы Лігі нацый і інш.

# Будзе экзатычны ўраджай

## Арбузы і дыні ў Беларусі плануюць вырошчваць у прамысловых маштабах

**Вольга Бяляўская**

«Вытворчасць гэтых культур у нашай краіне мэтазгодная. Мы пачалі работу ў мінулым годзе, паспрабавалі каля трыццаці розных гатункаў арбузаў і дынь з усёй Еўропы, каб вызначыць магчымасці іх вырошчвання ў Беларусі", — паведаміў дырэктар Інстытута гароднінаводства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Аутка.

У выніку даследаванняў аграрыі выбралі найбольш прыдатныя для ўмоваў Беларусі гатункі незвычайнай гародніны. Цяпер адпрацоўваецца тэхналогія іх вырошчвання як на акадэмічных дослядных дзялянках, так і ў гаспадарках Гомельскага, Рэчыцкага і Кобрынскага раёнаў.



БЕЛТА

Дыня на доследных дзялянках

Аляксандр Аутка адзначыў, што хоць сёлета склаліся неспрыяльныя кліматычныя ўмовы для вырошчвання арбузаў і дынь, аднак яны ўжо даспяваюць, і ў хуткім часе пачнецца збор ураджаю.

Як мяркуе вучоны, вырошчванне арбузаў і дынь можа стаць прыбытковаю справаю для беларускіх гаспадарак. "Калі гадоў дваццаць таму на адным пасяджэнні я сказаў, што ў Беларусі будуць вырошчваць перцы, гэта выклікала ва ўсіх усмешку. Сёння ж перцы вырошчваюць многія беларускія дачнікі. Тое ж самае здарыцца і з арбузамі", — упэўнены Аляксандр Аутка.

**НАВІНЫ З ЭСТОНІІ**

# Добры дзень, пабрацімы!

**Некалькі тысяч чалавек сабраў фэст "Святкуйце разам з беларусамі Эстоніі", які прайшоў у Дзень горада Маарду**

Месца для правядзення мерапрыемства выбрана не выпадкова: Маарду ўсталяваў пабрацімскія сувязі з Фрунзенскім раёнам Мінска. Варта зазначыць, што значную частку насельніцтва горада складаюць выхадцы з Беларусі, тут актыўна дзейнічае беларуская грамадская арганізацыя "Ялінка".

Фэст на гарадскім стадыёне ўрачыста адкрывалі мэр Георгій Быстроў, намеснік кіраўніка адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска Алег Паскробка і консул Станіслаў Венцаль. З захапляльнай праграмай выступіў заслужаны аматарскі калектыў "Шкляры" — гэты вакальна-інструментальны ансамбль быў спецыяльна запрошаны на свята.

Далей выступалі самадзейныя артысты беларускіх суполак "БЭЗ" (Йыхві — Кохтла-Ярве), "Ялінка" (Маарду), "Сябры" (Нарва), "Крыніца" (Сіламяэ) і "Лес" (Талін), а таксама мастацкія калектывы мясцовага Дома культуры.

На фэсце можна было набыць беларускія вырабы з тэкстылю і крышталю, прыгожыя сувеніры, паспытаць стравы нацыянальнай кухні. Сапраўдным упрыгожаннем свята стаў парад планерыстаў: гледачы з захапленнем назіралі, як лунаюць у небе дзяржаўныя сцягі Беларусі і Эстоніі.

Усе актыўныя ўдзельнікі фэсту атрымалі дыпломы Генеральнага консульства, сувеніры мэрыі.

# На хвалях прыгажосці

**У Эстоніі ўпершыню прайшоў Фэст прыгожай музыкі, які прысвячаўся памяці епіскапа Платона**

Дзякуючы падтрымцы Генеральнага консульства Беларусі ў Эстоніі ў фестывалі ўдзельнічаў квартэт струнных інструментаў "Прымавера" Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Канцэрт быў арганізаваны ў Трыадзінай апостальскай праваслаўнай царкве Кыпу воласці Тыстамаа Пярнускага павета.

Прагучалі вядомыя творы І.Баха, Г.Гендэля, Й.Гайдна, Б.Брытэна і П.Чайкоўскага. На свяце прысутнічалі старэйшына Пярнускага павета, прадстаўнікі дзелавых колаў, дзеячы культуры і мастацтва. Арганізатараў фэсту і выканаўцаў з Беларусі вітала віцэ-консул Генеральнага консульства Беларусі ў Таліне Алена Фешчанка.

**Па матэрыялах прэс-службы Генеральнага консульства Беларусі ў Таліне**

РЭПАРТАЖ З ГЛЫБІНКІ

# У Сваятычах, дзе сад малады

Слава пра добры мёд разлятаецца, пэўна ж, намнога далей, чым пчолы, збіраючы нектар. Гэтак і да Мінска дайшлі чуткі пра пчаляра са Сваятычаў. Нядаўна мы выбраліся да яго на Брэстчыну, у Ляхавіцкі раён, у вёску з такой свойскай назвай

Іван Ждановіч

Летні поўдзень. Цішыня паблізу школы, абкружанай старымі дрэвамі. А мемарыяльная дошка на ўзгорку нагадвае, што гэты парк, як і ўся тэрыторыя сядзібы XVIII—XIX стагоддзяў, ахоўваюцца дзяржавай. Крыху далей, за мостам цераз падпруджаную рэчку Ведзьму, рыбачаць хлапчукі. На ўзгорку відаць строгіх формаў касцёл, узведзены ў гонар святога Юрыя ў 1825 годзе. Пры ім і капліца-пахавальня роду Абуховічаў. Сядзібны ж іхні дом, на жаль, не ацалеў у вайну, і менавіта на тым месцы была ўзведзена школа. А як раней выглядаў палац Абуховічаў у Сваятычах — тое можна пабачыць і сёння дзякуючы аднаму з малюнкаў-літаграфій знакамітага Напалеона Орды. Між іншым, магутны шляхецкі род Абуховічаў згадваецца ў першай кнізе паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш", але з часам, расказваюць старажылы, ён заняпаў, і вялікія іх колісь зямельныя родавыя ўладанні на пачатак Другой сусветнай вайны не перавышалі ў ваколіцах Сваятычаў 30 гектараў.


Сядзіба Абуховічаў у Сваятычах. З малюнка Напалеона Орды

Як і дамовіліся, сустрэў нас сам пчаляр, Уладзімір Палівода. Бадзёры мужчына, ён круціць педалі ровара (так "з польскіх часоў" тут называюць веласіпеды), мы едзем за ім, звярнуўшы з вуліцы, па ўтравелай дарозе. Цяпер на сядзібе, плошчаю гектары са два, прывольна пчолам Уладзіміра Мікалаевіча. Жыў побач і пчаляр, а пару гадоў таму, калі яго не было дома, успыхнуў пажар, хаты не стала. Сын, які цяпер "жыве пад Піцерам", дапамог пагарэльцу справіць наваселле ў іншым доме. Бывае, начлежыць ён і тут, пад вялізным дубам, у аднаскатным будынку пчалярні. Рамантык, бо ўсур'ёз кажа: "От думаю, як гэта б на дубе сабе жытло змайстраваць..."

Уладзімір Мікалаевіч з вясковых, з суседняга Клецкага раёна. Закончыўшы ветэрынарную акадэмію ў Віцебску, доўгі час працаваў па спецыяльнасці, кіраваў птушкафермай, займаў нават кіруючыя пасады ў раённым сельгасупраўленні, выкладаў у Ляхавіцкім сельгастэхнікуме. Здаўна марыў пра пчолаў. Калі даведаўся, што ў калгасе "Беларусь" (цяпер СВК "Жарабковічы") патрэбен такі спецыяліст, то прыняў кардынальнае рашэнне: змяніў райцэнтр на сядзібу ў Сваятычах. Цяпер, праўда, пасека — ужо яго ўласнасць.


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Уладзімір Палівода — і пчаляр, і садоўнік

Ідзем сцяжынай у глыб парку. І вось нечаканасць: пад шатамі дрэваў стаіць доўгая, метраў за дзвацаць, металічная рама на колах, а ўсе вуллі пасекі, мо з трыццаць, на ёй у два рады. На адным з краёў і невялікі вандроўны будан пчаляра. Адкуль канструкцыя? Аказалася, падчас канверсіі на пачатку 90-х вайскоўцы распрадаваліся платформы. Калгас і набыў іх для сваіх патрэбаў. Умельцы, між іншым, прыстасавалі іх і лён вазіць, і рулоны саломы. А тут яшчэ і пчолам рай. "Як толькі дзе што цвіце — я пасеку за трактар падчапіў і туды. Бо, вядома ж, чым менш пчале пералётаў, тым эфектыўнасць работы ў яе большая," — тлумачыць пчаляр.

Потым Уладзімір Мікалаевіч расказваў нам пра таямніцы пчолаў, частаваў мёдам і ягадамі са свайго маладога сада, у якім, дарэчы, гнуцца ўжо галіны ад яблыкаў і грушаў, добрым чакаецца ўраджай. А цяпер пчаляр рыхтуецца "падглядваць пчол" — так спрадвеку завецца працэс здабывання мёду з вулляў.

# І нават вальс Напалеона...

Алена Захарава

**Летні баль упершыню прайшоў у Доме-музеі Ваньковічаў**

Гэты невялікі аднапавярховы асабняк XIX стагоддзя, дзе ў свой час жыў і працаваў знакаміты мастак Валенцій Ваньковіч, захоўвае памяць пра даўнюю эпоху. Між іншым, некаторыя з работ Валенція Ваньковіча і цяпер займаюць пачэснае месца ў музеях і прыватных калекцыях Англіі, Францыі, Польшчы, Літвы, Італіі, Расіі. На Радзіме ж пакуль няма ніводнага арыгінала карцін мастака.

Цяпер сядзіба аказалася сярод сучасных мураваных забудоў у самым цэнтры Мінска, на вуліцы Інтэрнацыянальнай (былой Валоскай). Менавіта тут з 2000 года дзейнічае музей "Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя" як філіял Нацыянальнага мастацкага музея. Надаўна тут упершыню прайшоў летні баль.

Госці сабраліся на адрэстаўраванай пляцоўцы ў двары шляхецкай сядзібы. Аматары даўніны з клуба, створанага пры Мінскім дзяржаўным турыстка-экалагічным цэнтры дзяцей і моладзі, выконвалі старадаўнія танцы першай паловы XIX стагоддзя. Варта заўважыць, што юнакі і дзяўчаты цікавяцца гісторыяй розных эпох і краін, займаюцца рэканструкцыяй танцаў і падборам да іх касцюмаў, наладжваюць тэматычныя вечарыны і балі. У праграме ж балю ў Доме-музеі Ваньковічаў значыліся такія раней папулярныя танцы, як венскі вальс, кадрыль, полька-кацільён і нават вальс Напалеона. Супрацоўнікі музея маюць намер наладжваць падобныя мерапрыемствы і ў далейшым.

# Новае пра Аляксандра Рыпінскага і Паўлюка Багрыма

## У Беларускім дзяржаўным універсітэце прайшла традыцыйная беларуска-польская канферэнцыя

Адам Мальдзіс

Штогадовыя канферэнцыі ў БДУ пад дэвізам "Шлях да ўзаемнасці" сталі ўжо своеасаблівым брэндам ў беларуска-польскіх навуковых узаемадачыненнях. Ініцыятарам і арганізатарам канферэнцый з'явілася Грамадскае аб'яднанне "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў", прычым па чарзе адзін год пасяджэнне адбываецца ў Мінску, а наступнае — у Варшаве ці Любліне.

А некалькі гадоў таму ўзнікла паралельнае адгалінаванне пад той жа назвай. Арганізатарамі яго сталі Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы і Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.

Сёлета "Шляхі ўзаемнасці" праляглі праз Мінск. На філфак БДУ прыехала вялікая група польскіх літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў. Сярод іх, што радуе, аказалася нямала моладзі. Як правіла, беларусы ведалі польскую мову, а палякі разумелі па-беларуску. Таму даклады выклікалі дасведчаныя пытанні, жывую дыскусію.

Калі гаварыць пра гасцей, то найбольшую зацікаўленасць выклікаў (прынамсі ў мяне) даклад прафесара Міколы Хаўстовіча. Зрэшты, лічыць яго ў БДУ госцем цяжкавата: тут ён стаў доктарам філалагічных навук, тут напісаў і выдаў кнігі па гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Але пасля таго, як загадчык кафедры беларусістыкі Варшаўскага універсітэта вядомы даследчык і паэт Алесь Баршчэўскі пайшоў на пенсію, польскія калегі папрасілі (што ўжо бывала не раз): падзяліцеся з намі кадрамі. І Мікола сёння паспяхова спраўляецца, як кажуць, "на дзве хаты".

Сёлета Хаўстовіч узняў тэму, здавалася б, прыватную: выдавецкая дзейнасць у Лондане беларускага і польскага паэта і фальклырыста, ураджэнца Віцебшчыны Аляксандра Рыпінскага. З яго беларускіх твораў сёння вядома толькі адна балада "Нячысцік" — праўда, друкавалася яна на Захадзе тройчы. Але нельга забываць, што Рыпінскі выдаў у 1840 годзе ў Парыжы першую кніжку па беларускай фалькларыстыцы і літаратуры, якая так і называлася — "Беларусь". А потым, перабраўшыся з Францыі ў Англію, заснаваў там, у прыгарадзе Лондана Тотнэме, Вольную сла-


NIACZYŚCIK,

BALLADA

Знойдзены аўтарам у Лондане экземпляр "Нячысціка" А. Рыпінскага, друкаванага лацінкай

вянскую друкарню, якая карысталася шырокай вядомасцю (у 1982 годзе разам з музыказнаўцам Гаем Пікарда мне ўдалося наведаць яе двухпавярховы будынак). Даклад калегі я слухаў з ціхай зайздрасцю: калі мне ў свой час удалося выявіць чатыры лонданскія выданні Рыпінскага, то яму — ужо 16! І не толькі выявіць, але і даследаваць, устанавіць істотныя паралелі.

Сярод выданняў Рыпінскага Хаўстовіч звярнуў асаблівую ўвагу на "Аповесць майго часу, або Літоўскія прыгоды". Выйшла яна ананімна — спачатку ў Лондане (1854), а потым у Познані (1858). Але ўдалося ўстанавіць, што аўтарам успамінаў з'яўляецца навагрудскі адвакат Ігнацы Яцкоўскі. Ён надрукаваў у кнізе верш падлетка з Крошына Паўлюка Багрыма "Заграй, заграй, хлопча малы..." Аднаго гэтага твора аказалася дастаткова, каб яго сапраўдны ці ўяўны аўтар увайшоў у гісторыю беларускай літаратуры, быў увекавечаны ў Крошыне. Аднак Хаўстовіч аргументавана даказаў, што ніякага сялянскага паэта Багрыма не было, што верш прыдумаў сам Яцкоўскі. Гэтае паведамленне выклікала сенсацыю. Многім, у тым ліку і мне, цяжка будзе звыкнуцца з думкай, што ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя не было свайго Шаўчэнкі, няхай і патэнцыяльнага, але, відаць, прыйдзецца змірыцца...

Беларускі і польскі бакі дамовіліся на канферэнцыі, што будуць хадайнічаць перад уладамі Лондана аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на доме, дзе была Вольная славянская друкарня А. Рыпінскага.

З пленарных адзначым яшчэ даклады прафесараў Рышарда Радзіка (Люблін) і Мікалая Прыгодзіча (Мінск). Першы па-новаму глянуў на ролю віленскай "Нашай нівы" ў фарміраванні нацыянальнай свядомасці беларусаў, другі ахарактарызаваў справы і постаць польскага беларусіста Міхала Саевіча, які ўсебакова даследаваў беларускія гаворкі з-над Нарвы на Беласточчыне. Дарэчы, прафесар Саевіч, які цяпер узначальвае Польскую асацыяцыю беларусістаў, сам паходзіць з мясцін над Нарвай-ракой, лічыць сябе беларусам. Цяжка пералічыць усе вартыя ўвагі даклады (а іх было заяўлена больш за 30), якія прагучалі на секцыях, будзем спадзявацца, што яны неўзабаве паўторацца ў спецыяльным зборніку.

А наступнай канферэнцыяй на філфаку БДУ у кастрычніку будзе таксама традыцыйная, дзевятая па ліку навуковая сустрэча на тэму "Славянскія культуры ў кантэксце сусветнай". Кожны год, сказаў у сваім прывітальным слове намеснік дэкана філфака Павел Навойчык, у БДУ праходзіць не менш пяці славістычных канферэнцый, прычым 2–3 з іх праводзяцца сумесна з палякамі.

ФАРБЫ ЛЕТА

# Нарач: цёплы бераг дзяцінства

## Цэнтр дзіцячага адпачынку "Зубраня" святкуе саракагоддзе

**Юлія Логвінава**

Трапляючы сюды, на бераг чароўнага возера Нарач, адразу згадваеш гарады-дзяржавы эпохі Адраджэння, якія мелі не толькі свае плошчы, праспекты, але і сваю ўладу, зводы законаў альбо правілаў паводзін. Адно з іх у "Зубраняці", дарэчы, дае аб сабе ведаць адразу пасля плошчы Сяброўства. Гэта намаляваны на сцяне сталоўкі жыраф: у яго тут заведзена прасіць прабачэння, калі выпадкова патопчаш траўнік. А даруецца твая правінасць, калі даўгашыі табе... паклоніцца. Вы ўжо ўсміхаецеся? А ў гэтых мясцінах нельга інача: усмешка і добры настрой — візы ў чароўную Краіну дзяцінства.



Адпачываць у дзіцячым цэнтры "Зубраня" заўсёды весела

Тут, на тэрыторыі ў семдзесят шэсць гектараў, ёсць кінатэатр, цэнтр дзіцячай творчасці, школа, басейн, этнаграфічная сядзіба, заапарк і шмат чаго яшчэ. Нават цырульня. Жывучы ў шыкоўных бытавых умовах, маленькія грамадзяне могуць развіваць практычна ўсе свае здольнасці. Гурткі ж на любы густ: тэатральны, бацікa, мастацкай цацкі, экібаны, саломкі, пап'е–машэ, макрамэ... У аднаўленай спартыўнай зале і на адкрытых пляцоўках безліч трэнажораў, аматары водных відаў спорту на Нарачы маюць свой кацер і некалькі катамаранаў. А хочаш інтэрнэт — калі ласка ў камп'ютарныя класы.

Прыхільнікі падарожжаў рэалізуюць свае інтарэсы на маршрутах, якія праходзяць як у межах лагера, так і па ўсёй Беларусі.

А творчыя конкурсы! Ужо тройчы на базе "Зубраняці" праходзіў фестываль "Маладыя таленты Беларусі", сюды прыязджаюць харэаграфічныя, тэатральныя, вакальныя, цыркавыя калектывы і з краін замежжа. Дарэчы, тут праводзяць частку сваіх канікул школьнікі не толькі з Беларусі і краін СНД, але і з Польшчы, Сербіі, Вялікабрытаніі, Галандыі і ЗША. А ў верасні збярэ навучэнцаў спецыялізаваная кадэцкая змена, прыедуць і дэлегаты з'езда "Сяброўства без межаў" — ён праходзіць тут ужо шэсць гадоў.

"За дваццаць адзін дзень змены можна напоўніць дабром душу дзіцяці, — упэўнена дырэктар "Зубраняці" Надзея Ануфрыева. — Настроіць яе на такі лад, каб яна гучала прыгожа і гарманічна!"

Я гляджу ў вясёлыя вочы гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, яны сапраўды свецяцца шчасцем. Пэўна, так і павінна быць у Краіне дзяцінства.

ДАРЭЧЫ

**Калі артыкул быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што лагер "Зубраня" атрымаў статус Нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага цэнтра. Адпаведны ўказ падпісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Савету Міністраў даручана зацвердзіць комплекс мерапрыемстваў па арганізацыі дзейнасці НДЦ "Зубраня" на 2010-2015 гады, а таксама план будаўніцтва і рэканструкцыі яго будынкаў.**

ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ

# Моўныя самацветы

**Цікава час ад часу пагартаць старажытныя кнігі на беларускай мове, старабеларускія слоўнікі. Знаходзіш нямала карыснага і цікавага.**

Ці ведаеце вы, як у старажытнасці на беларускіх землях называлі родных асобы, якая займала пэўную пасаду? А вось як. Напрыклад, **канцелеровая** — гэта жонка **канцлера**. Нагадаю, што канцлер у Вялікім княстве Літоўскім — кіраўнік дзяржаўнай канцылярыі, які выконваў таксама функцыі міністра ўнутраных і замежных спраў. А дачку канцлера называлі **канцлерына**.

**Кашталян** — галоўны ваенны кіраўнік горада і павета ў часы ВКЛ. Адпаведна, жонка кашталяна — **кашталяновая**, а дачка — **кашталянка**.

Гэтая мадэль была вельмі прадуктыўнай у старажытнасці. Прыгадваецца, дарэчы, у гэтай сувязі купалаўскі Бандарэнка і яго дачка Бандароўна.

У сучасных гаворках нашай мовы таксама можна сустрэць падобныя найменні.

Беларуская мова мае багатую гісторыю. Карыстайцеся яе скарбамі спаўна і вывучайце сваю спадчыну!

Падрыхтавала **Вераніка Бандаровіч**

КРЫЖАВАНКА

# Водгук жніва

**Па гарызанталі:**

5.Не той ... , што на полі, а той, што ў гумне (прык.). 6.Кладзі ... у пару, збярэш збожжа гару (прык.). 9.Прысвятак у беларускім народным календары, які прыходзіцца на 17 снежня: ....ноч уваравала (прык.). 10.Калі добра ўзарэш, то і добры ... збярэш (прык.). 14.У каго чорна ..., у таго і хлеба скіба (прык.). 15. "Пайшлі аддыхаць пад паветкі,// Згуляўшы ..., жняяркі". З верша Я.Купалы "Новая восень". 16. Ілля ... пачынае, а лета канчае (прык.). 19. Сама сябе ... б/е, калі нячыста жне (прык.). 20.Старажытнае рачное судна для перавозкі галоўным чынам збожжа. 21.Мужыку лета — што святому ...(прык.). 22.Орган размнажэння ў грыбоў. 25. Як ... не будзе без воласа, так жытніша без коласа (прык.). 27.Рабі, ... , то і Бог дапаможа (прык.). 30. ... ад коласа — што не чуваць чалавечага голаса (прык.). 31.Пільнуй гаспадаркі, будуць у гаршку ... (прык.). 34."Хадзіць паважна дбалы ..., // Трактар — палёў гаспадар". З верша Я. Коласа "Песняй вітаю я вас". 37. На ... вясны канец (прык.). 38. Хто рана засявае, той ... не губляе (прык.). 39. Гліняная пасудзіна для захоўвання вадкіх рэчываў. 40. ... у гаспадарцы — бацька (прык.).

**Па вертыкалі:**

1. Якая справа, такая і ...(прык.). 2.Добраму ўраджаю і добрая ...(прык.). 3.Поўна карыта цвікоў набіта (заг.). 4.Не тады ... , як ждуць, а тады, як жнуць (прык.). 7.Жалезны конь, у жываце агонь, есці не просіць, а жне і малоціць (заг.). 8. Жыта і пшаніца — то Богава ... (прык.). 11.Калі пыл на баране, дык і ... на рэшаце (прык.). 12. І ... есці не просіць — сама сабе наносіць (прык.). 13... Галавасек. Свята беларускага народнага календара, якое прыходзіцца на 11 верасня. Іншыя назвы — Калінавік, Посны. 17.Пірог, які беларусы здаўна выпякалі пры канцы жніва, як сімвал заканчэння збору ўраджаю. 18. ... за стол просім (прык.). 23. ..., ці Спас Мядовік. Свята беларускага народнага календара, якое адзначаецца 14 жніўня. 24.Сістэма абаронччых збудаванняў. 26. ... ды лебяда — для палетку бяда (прык.). 28.Прыйшоў Баўтрамей — ... на зіму сей (прык.). 29.Свой ... ягадзе, свой ... баравіку (прык.). 32. Дзе ... , там і мёд (прык). 33. Не гаспадыня, што на ніўцы ... , а пад акном крапіва (прык.). 35. ... — талерка: што пакладзеш, тое і возьмеш (прык.). 36.Адно ... пуды прыносіць (прык.).

Падрыхтаваў **Лявон Целеш**, г.Дзяржынск



**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:** 5. Хлеб. 6.Гной. 9.Варвара. 10.Ураджай. 14.Глыба. 15.Дажынкі. 16.Жніво. 19.Жнейка. 20.Віціна. 21.Рай. 22.Аск. 25.Галава. 27.Нябожа. 30.Колас. 31. Скварка. 34.Араты. 37.Зелянец. 38.Насенне. 39.Гляк. 40.Конь.

**Па вертыкалі:** 1.Слава. 2.Уборка. 3.Агурок. 4.Дождж. 7.Камбайн. 8.Пашніца. 11.Блін. 12.Мыш. 13.Іван. 17.Каравай. 18.Увосень. 23.Макавей. 24.Абарона. 26.Асот. 28.Жыта. 29.Час. 32.Кветка. 33.Краскі. 35.Зямля. 36.Зерне.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 907